**Не спазніцеся! Сёння апошні дзень падпіскі на верасень!**

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**№ 67 (4422)**

27 жніўня 2019 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля


**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Дзякуй за тое, што Вы прачыталі гэты нумар. Адгукніцеся, калі ў Вас ёсць заўвагі, меркаванні, прапановы, тэмы.*
**Тэл. (8 017) 328 68 71**



НЕЗАВИСИМАЯ ЭКСПЕРТИЗА

Борис ЖЕЛИБА, профессор, доктор экономических наук

# С кем углубляем интеграцию?

Пропагандистское заявление президента России Путина о том, что страна вот-вот явит миру чудо – совершит экономический рывок, который позволит ей заскочить в топ-5 крупнейших экономик мира, оказывается чистейшим блефом. ВВП России не растет, а ползет. Согласно консенсус-прогнозу профессиональных аналитиков, российская экономика в текущем году выжмет максимум 1,3%, а далее, до 2025 года, не перепрыгнет 2%-ную планку ежегодного прироста. По данным 2018 года, Россия с ее ВВП в 1,58 трлн долларов занимает 11-е место в мире после Канады (1,65 трлн долларов). Будет к месту напомнить, что ВВП Китая (2-е место) – 12,2 трлн долларов. Впереди России Италия (1,9 трлн), Бразилия (2 трлн), Франция (2,6 трлн), Индия (2,6 трлн) и другие страны.

Но Минэкономразвития РФ бодро считает, что экономика уже к 2021 году ускорится вдвое – до 3,1%, а к 2024-му разгонится до 3,3%. Мол, драйверами станут национальные проекты на 25 триллионов рублей, финансировать которые будет бюджет за счет повышения налогов (НДС) и экономии от повышения пенсионного возраста. Подавляющее большинство специалистов считает, что это несбыточно и что правительству России нужно думать совсем о другом.

Росстат насчитал 48,2% россиян, которым элементарно недостает денег на полноценную еду, обувь и одежду. О приобретении таких товаров длительного пользования, как телевизор, холодильник, стиральная машина, мебель, они даже не задумываются. В среднем всего 3,7% доходов населения откладываются в сбережения. Две трети российских семей вообще таковых не имеют. Средний класс России, о котором трубили в начале нулевых годов (в развитых государствах именно он цементирует экономику), исчез. Есть в основном или богатые, или бедные. Между богатыми и бедными находятся лишь 4,1% россиян. Реальные доходы населения падают седьмой год подряд. По данным Росстата, по сравнению с 2013 годом сегодня у россиян на 8,3% меньше денег в кармане. В Беларуси, кстати, реальные доходы населения выросли на 7%. За прошедший 2018 год долги российских физических лиц выросли на 22%. Как подсчитали в Центробанке РФ, доля выплат по кредиту в общей зарплате работников составляет в среднем около 10%, россияне-должники направляют на погашение долгов 44% своих доходов. Кредитные долги населения достигли 14 триллионов российских рублей, или порядка 13% к ВВП, причем 47% россиян имеют на себе два и более непогашенных кредита. В Беларуси кредитная нагрузка населения пока в районе 10% к ВВП. В России лишь 3,2% граждан заявляют, что довольны своим финансовым положением.

В то время как Путин гробит миллиарды долларов на гиперзвуковые ракеты, которыми он пугает Запад, топит такие же миллиарды, кредитуя безнадежную экономику Венесуэлы, а затраты на войну в Сирии вообще не поддаются оценке, российская глубинка и не только – это убитые дороги, облупившиеся дома, заросшие даже центральные улицы, пустые гостиницы. Это дачники, снова распахивающие свои газоны под грядки. Это горящие леса Сибири, затопленные Приамурье и Дальний Восток. Далекая от народа карманная Госдума пытается законодательно запретить бесплатные лов рыбы, сбор грибов и ягод. Зато депутаты дружно голосуют за право богатейших сограждан России вовсе не платить налоги, уводя бизнес в оффшоры, за беспошлинный ввоз в страну яхт и самолетов-бизнесджетов, за компенсации из бюджета тем слугам народа, у которых за границей конфисковали поместья. Многие нувориши и думцы, высшие чиновники, даже телепропагандисты учат своих детей на Западе и создали там «запасные аэродромы» – на всякий случай. Думцев не оставляет идея, почерпнутая из белорусского опыта, – штрафовать безработных, наложить где только можно государственную лапу на доходы граждан в растущей серой экономике. Страна вышла на третье место в мире по числу миллиардеров, но никто не предлагает обсуждать проблему пропасти, которая разверзлась между доходами богатых и бедных.

Россия упустила свой шанс стать высокотехнологичной державой. Для этого необходимо сотрудничать, а не конфликтовать с цивилизованными государствами. В то время как набирают темпы развития такие страны, как Бразилия, Индия, не говоря уже о Китае, Россия погружается в болото стагнации. В этом году исполняется пять лет, как против России были введены первые санкции за аннексию Крыма и оккупацию части Донбасса. Они делают свое контрпродуктивное дело, что бы там ни заявляли российские власти о том, что, мол, санкции убрали лишних конкурентов с внутреннего рынка. Если в первое десятилетие правления Путина российское руководство пыжилось и надувало щеки, заявляя, что скоро по доходам на душу населения Россия догонит Португалию или хотя бы Чехию, то сейчас приходится констатировать, что россияне по заработкам уступают уже туркам и мексиканцам. Многие опасаются, что еще через пять лет авторитарного пути россияне будут меряться доходами населения с африканскими странами.

Российский локомотив, к которому в свое время прицепилась экономика Беларуси, уже больше не тянет, а все больше дает пробуксовок. В свое время от него отцепилась Финляндия, и как теперь живут финны? Отцепились (правда, много позже) государства Балтии и по всем показателям давно обошли Беларусь. Причем эти государства вовсе не отворачивались от российского рынка. Показательна в этом отношении как раз Финляндия, которая два века входила в состав Российской империи. Помните, еще Пушкин писал о «приюте убогого чухонца» (ключевое слово «убогого»). Страна много лет сотрудничает с Россией: покупает у нее лес, строит ей суда, ледоколы и т.п., но имеет самодостаточную развитую экономику. Не вступает, чтобы не раздражать «российского медведя», в НАТО. Почему бы Беларуси не взять с нее пример? Пока еще не поздно…

АНОНС

*25 марта 1917 года Белорусский Национальный Комитет официально объявил о принятии эскиза национального белорусского флага… Взгляд на историю возникновения и эволюцию бело-красно-белого флага исследователя, автора книги «Флагі Беларусі ўчора і сёння» Александра Басова читайте на 6-й стр.*



АКТУАЛЬНА

# ЦТ адменяць?

Учора Аляксандр Лукашэнка прыняў з дакладам міністра адукацыі Ігара Карпенку. І першае, на што звярнула ўвагу грамадскасць, – Лукашэнка адзначыў, што *«сістэму паступлення ў ВНУ прыйдзецца дзесьці ўдасканальваць»*.

Красамоўныя цытаты кіраўніка дзяржавы прыводзіць ягоная прэс-служба:

– Я, вядома ж, чытаю, бачу і чую, мяне інфармуюць, што ў нас не ўсё ў парадку з паступленнем у ВНУ. Да гэтага часу ідзе крытыка цэнтралізаванага тэсціравання. Крытыкуюць новую нейкую методыку (вы прыдумалі) па падліку гэтых балаў. Хоць галоўнае не балы, а веды. Усе павінны разумець, і бацькі ў тым ліку: калі ў дзіцяці ёсць веды, то па якіх балах і шкалах ні лічы, яны ўсё роўна паступяць у ВНУ. Калі ведаў няма, ніякія балы не дапамогуць…

– Скажу адкрыта, што я апошнім часам, паслухаўшы многіх бацькоў (ды і ў мяне хапае вучняў у маёй вялікай сям'і, я гэтым цікаўлюся), пачынаю ўжо задумвацца, атрымліваючы вялікі аб'ём інфармацыі, што нам, магчыма, давядзецца недзе ўдасканальваць, мякка кажучы, сістэму паступлення ў ВНУ. Больш за ўсё мяне хвалюе тое, што абітурыент, які марыць заўтра стаць студэнтам, не здае экзамены твар у твар з экзаменатарам, з выкладчыкам ВНУ або іншых навучальных устаноў.

Праўда, А.Лукашэнка адзначыў, што пакуль не прымае ніякіх рашэнняў, што гэтае пытанне патрабуе комплекснага абмеркавання на адмысловай нарадзе па развіцці сферы адукацыі. І прапанаваў яе правесці ў лістападзе-снежні бягучага года.

– *Пра гэтую нараду, пра тое, што трэба сабрацца і абмеркаваць праблемы ў нашай сістэме адукацыі, кажуць апошнія гадоў пяць,* – выказвае сваё меркаванне ў каментарыі для «Народнай Волі» вядомы мінскі рэпетытар **Яўгеній Лівянт**. – *Ідэя правільная, без гэтай нарады нам сапраўды не абысціся. Але што тычыцца ЦТ, яно сапраўды моцна крытыкуецца. Але вяртанне да фармату «экзамены твар у твар з экзаменатарам, з выкладчыкам ВНУ» – гэта, на мой погляд, крок назад, які прывядзе да жудаснага росту карупцыі на ўступных іспытах. Я лічу, што, магчыма, ЦТ трэба ўдасканальваць, але варта захаваць агульнадзяржаўны экзамен як спосаб аб'ектыўнай праверкі ведаў выпускнікоў школ і працы іх выкладчыкаў. Гэта вельмі важна! Ёсць жа ў Расіі ЕГЭ (Адзіны дзяржаўны экзамен), у Польшчы – агульнанацыянальны экзамен матура. Спадзяюся, што мы захаваем усё лепшае, што напрацавана ў нас у гэтым плане.*

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПАЛІТКУХНЯ

Анатоль ЛЯБЕДЗЬКА:

# «Чарка і скварка залежаць ад сумленных выбараў»

*«Народная Воля» пацікавілася, як ідзе збор подпісаў пад электроннай петыцыяй аб адстаўцы старшыні Цэнтрвыбаркама Лідзіі Ярмошынай, якую арганізаваў былы старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька.*

*«Лідзія Ярмошына была прызначана на пасаду старшыні ЦВК з грубым парушэннем дзеючага заканадаўства,* – гаворыцца ў петыцыі. – *Усе прэзідэнцкія і парламенцкія выбарчыя кампаніі, арганізаваныя ЦВК на чале з Ярмошынай, былі прызнаны міжнароднымі місіямі не адпавядаючымі стандартам АБСЕ.*

*Спадарыня Ярмошына неаднаразова рабіла заявы і ажыццяўляла дзеянні, якія дыскрэдытуюць ЦВК.*

*Улічваючы, што ў Беларусі ў 2019–2020 гадах пройдуць парламенцкая і прэзідэнцкая выбарчыя кампаніі, мы, выбаршчыкі Рэспублікі Беларусь, грунтуючыся на артыкуле 3 Закона Рэспублікі Беларусь ад 30 красавіка 1998 г. №137-З «Аб Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенні рэспубліканскіх рэферэндумаў», патрабуем адхілення старшыні ЦВК Лідзіі Ярмошынай ад займаемай пасады…*

**– Анатоль Уладзіміравіч, я глядзела, што ўчора днём было сабрана крыху больш за 2000 подпісаў. На мой погляд, гэта не вельмі шмат…**

– Гэта дастаткова многа, але гэтага яўна не хапае для таго, каб сказаць, што беларусы не могуць жыць без свабодных і сумленных выбараў. Мы будзем працягваць збор подпісаў.

Я лічу, вельмі важна было зрабіць гэтую петыцыю. Бо Лідзія Ярмошына праводзіць ужо шаснаццатую ці сямнаццатую кампанію, але нічога не мяняецца.

**– Як думаеце, чаму такая не вельмі актыўная рэакцыя на просьбу паставіць подпіс? Можа, людзі не вераць у моц электронных петыцый? Ці насамрэч справа не толькі ў Ярмошынай?**

– Справа ў тым, што наогул электронныя петыцыі ў лепшым выпадку збіраюць па некалькі соцень подпісаў, так што ў нас яшчэ дастаткова высокі ўзровень.

Ну і для нас няма ніякіх абмежаванняў па часе: выбарчая кампанія толькі пачалася, і насамрэч гэта добрая нагода проста прапанаваць людзям дыскусію наконт парламенцкіх выбараў. Я ўсцешаны тым, што акрамя самога збору подпісаў у сацыяльных сетках узніклі некалькі пляцовак, дзе ідзе актыўная дыскусія на гэтую тэму. І гэта вельмі добра! Бо трэба размаўляць пра тое, што можна зрабіць зараз, каб нейкім чынам уплываць на сітуацыю.

**– У вас асабіста ёсць план, як незалежным кандыдатам можна перамагчы на парламенцкіх выбарах? Ці як зрабіць, каб выбары прайшлі па самых высокіх стандартах?**

– Мы мусім рабіць усё, што можам. Дэмакратычная супольнасць якраз не сядзела збоку, у нас ёсць прапановы, якія былі падрыхтаваныя яшчэ ў 2017 годзе, наконт таго, што трэба змяніць у Выбарчым заканадаўстве. Пад імі падпісаліся ўсе асноўныя дэмакратычныя арганізацыі. І гэта вялікі плюс. Бо адсутнасць супольнай пазіцыі якраз на карысць уладзе.

Другі плюс, я лічу, гэта тое, што кампанія пачалася не з капелюшоў, якія кідаюць у паветра, а менавіта з такой непрыемнай асабіста для Лідзіі Ярмошынай кампаніі. Гэта гаворыць пра тое, што не ўсё яшчэ згублена. Гэтай петыцыяй мы спрабуем абвастрыць праблему выбарчага заканадаўства, адсутнасці свабодных выбараў.

Некаторыя кажуць: ну падпішу я петыцыю, хіба нешта зменіцца? Я адказваю так: трыццаць гадоў таму эстонцы, латышы і літоўцы выйшлі на вуліцу, каб узяцца за рукі. І выйшлі два мільёны чалавек. Ланцуг быў працягласцю амаль 600 кіламетраў. І яны перамаглі цэлую імперыю! Так і нам трэба праз розныя кампаніі, якія на першы погляд камусьці могуць здавацца і не зусім сур'ёзнымі, паказваць, што беларусы салідарны ў нейкіх пытаннях. Гэта вельмі важна.

Відаць, у сераду я пайду на вуліцу і буду наўпрост звяртацца да мінчан з просьбай падпісаць гэтую петыцыю. Бо не ўсе сядзяць у інтэрнэце, не ўсе, можа, ведаюць пра нашу ініцыятыву.

**– Не баіцеся, што затрымаюць?**

– Усё можа быць, але ж збор подпісаў у нас не забаронены. Трэба ўсё роўна выходзіць на вуліцы і размаўляць з людзьмі. Калі кожны зразумее, што ягоныя чарка і скварка наўпрост залежаць ад свабодных і сумленных выбараў, сітуацыя ў краіне зменіцца. Пакуль, на жаль, не ўсе бачаць гэтую залежнасць…

**Марына КОКТЫШ.**

ГОРОД

## В метро наступил зимний режим

С 26 августа Минский метрополитен перешел с летнего режима работы на зимний, что связано с окончанием периода массовых отпусков и каникул и необходимостью сокращения интервалов движения.

По информации предприятия, со вчерашнего дня поезда в метро начали ходить с интервалом 2 минуты в часы пик на обеих линиях. По летнему графику (с 1 июля по 26 августа) на Московской линии метро интервал движения в утренние и вечерние часы пик составлял 2,5 минуты, а на Автозаводской линии – 3 минуты.

В метро отмечают, что ежесуточный пассажиропоток в июне-июле по сравнению с маем и апрелем нынешнего года сократился в среднем на 100–120 тысяч человек.

**Сергей ШПИК.**

ЖАХ!

## ...і сеў за руль

У 4 гадзіны раніцы супрацоўнікі ДАІ звярнулі ўвагу на аўтамабіль БМВ, які віляў з боку ў бок. У салоне знаходзўся п'яны ў дым 32-гадовы жыхар Жодзіна – у выдыханым ім паветры выявілася 2 праміле алкаголю. І гэта яшчэ не ўсё.

Калі БМВ ставілі на штрафную аўтастаянку, інспектары заўважылі на пярэдняй панэлі трубку з фольгі з характэрнымі слядамі нагару. Выклікалі прадстаўнікоў наркакантролю, якія выявілі скрутак з рэчывам расліннага паходжання, якое аказалася марыхуанай. Усяго ў скрутку было крыху менш за 7 грамаў наркотыку. Пазней, абследуючы жыллё жодзінца, супрацоўнікі міліцыі выявілі яшчэ крыху больш за 10 грамаў марыхуаны.

Па дадзеных фактах распачата крымінальная справа па ч.1 арт.328 КК Беларусі, санкцыя па якой прадугледжвае да 5 гадоў пазбаўлення волі.

**Ларыса НАСАНОВІЧ.**

УЛЫБКА ХУДОЖНИКА




Житель деревни Прокисель отправился за грибами в лес и, как он сам решил, нашел шампиньон-гигант весом два килограмма. Фотографии находки разместил в социальных сетях. Но оказалось, что это гриб-головач, или дождевик гигантский, занесенный в Красную книгу Беларуси.

Теперь грибнику грозит штраф от 510 до 1275 рублей, а также 127,50 рубля за причиненный природе ущерб.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# Владимир Караник не виноват…

В интервью телеканалу ОНТ министр здравоохранения Владимир Караник пообещал повысить зарплаты работникам подведомственной системы: *«Президентом поставлена задача к 2025 году удвоить зарплаты для медицинских работников. Сейчас меняются механизмы оплаты труда. Мы меняем инструменты. На сегодняшний момент был маленький оклад и 44 надбавки (стимулирующего, компенсирующего характера), которые устанавливались либо главным врачом, либо представителем на местах. Всегда был какой-то элемент субъективизма. На сегодняшний момент оклад повышается существенно, но стимулирующих и компенсирующих надбавок становится всего лишь 13. Это тот инструмент, который позволит в последующем достаточно быстро и всем повышать заработную плату. На 2020 год планируется 20-процентное повышение»*.

Можно только порадоваться за наших врачей, медсестер, больничных нянечек. Ну заодно уж порадуемся и за себя как за пациентов: если врачам станут больше платить – вакансий специалистов в поликлиниках, наверное, меньше будет, да и работать они станут качественнее. Радость, правда, не слишком длительная, когда вспоминаешь, насколько выросла стоимость услуг и цена самых необходимых продуктов – продовольственных в том числе. Да, есть сезонные колебания, но даже при покупке колбасы ты слышишь вздохи покупательниц: вот, не думали, не гадали, а тут, оказывается, тот сорт, который ты привык в прошлом году покупать за шесть рублей, стоит уже восемь. С ужасом ждут горожане жировок после начала отопительного сезона. Так что обещанное повышение, до которого еще дожить надо, может оказаться не ростом доходов, а всего лишь недостаточной компенсацией за рост цен.

Министр здравоохранения в этом не виноват. Он работает с теми цифрами, которые получает из других министерств – Министерства экономики, Министерства труда и социальной защиты, Министерства финансов наконец. А они – в чем виноваты? Как экономика развивается, столько денег в бюджет поступает. Отсюда верстаются тарифные сетки для бюджетников, рассчитывается размер минимальной заработной платы. Каждый из них отвечает ведь за свое направление. А за все в целом отвечает высшее руководство правительства – премьер-министр и вице-премьеры.

А они – они-то в чем виноваты? Так мы с вами сработали, столько налогов заплатили в казну. Опять-таки – мировая конъюнктура цен на нефтепродукты складывается не лучшим образом. Россия никак не идет навстречу. Запад не идет навстречу. Никто не идет навстречу, и только правительство регулярно, кто бы ни был премьером, отчитывается перед главой государства и населением за очередные достижения. Причем замечательно отчитывается. Примерно так же, как в миниатюре известного советского эстрадного артиста Аркадия Райкина:

– К пуговицам претензии есть?

Что остается сказать населению в ответ?

– Нет, претензий к пуговицам нет. Привет, ребята, вы хорошо устроились.

Действительно, если нет претензий к отдельно взятой отрасли, какие могут быть претензии к экономике? Тем более что ведь выполнят обещание. Повысят зарплату. А то, что цены вырастут, – так это по другому ведомству проходит, там другие начальники-министры, другие проценты. К тому же понизить цены никто не обещал.

Да и куда их понижать? Кое-где клубнику и помидоры проще выбросить было в этом году, молоко – вылить, чем продать. Как в кошмарных советских (опять-таки) рассказах о загнивающем Западе: ужас какой, фермеры вынуждены закатывать овощи не в стеклянные банки, а прямо в землю! У нас такого не может быть, потому что не может быть никогда! Но вот – и у нас случилось, а счастья от этого не прибавилось.

К тому же у народа уже выработался четкий рефлекс – куда до него пресловутой собаке академика Павлова! Повышение заработной платы – это до выборов, а после выборов «всё отберут». Не в цифрах отберут – в покупательной способности белорусского рубля. Самый памятный момент случился после выборов 2010 года, когда, вероятно, единственным местом в Беларуси, где не выросла цена на гречку, оказалась внутренняя тюрьма КГБ, памятная многим «американка». И то – потому что закупка гречки там произошла еще до выборов. Но на всю жизнь ведь ни одной крупой не запасешься.

Народ устал от предвыборных игр цифрами и процентами. Народ хочет одного – предсказуемости и стабильности. Не политической стабильности: она за четверть века всех достала. Стабильности экономической. Когда ты знаешь, что твоя зарплата зависит от тебя, а не от очередного министра, которому президентская вожжа во время совещания под пиджак попала. Когда ты в состоянии планировать благополучие своей семьи хотя бы на пятилетку, точно зная: не устраивает тебя экономический курс – и ты (ты, а не президент!) отправляешь парламент и правительство в отставку. А у нас до того стабилизировались, что даже госпожа Ермошина жалуется на невозможность содержать дом и оплачивать коммуналку. Давайте поможем несчастной изработавшейся женщине – объявим сбор денег! Может, тогда хоть один человек в стране почувствует, что жить ему действительно хорошо.

ФАКТ

## Дапамога беспрацоўным перавышае 30 рублёў толькі ў двух рэгіёнах

А менш за ўсё беспрацоўным дапамагаюць, як ні дзіўна, у Мінску. У чэрвені беспрацоўным у сярэднім плацілі дапамогу ў такім памеры:

- Гомельская вобласць – 31 рубель,
- Віцебская – 30,8 рубля,
- Брэсцкая – 29,5 рубля,
- Гродзенская – 28,81 рубля,
- Магілёўская – 29,67 рубля,
- Мінская – 29,3 рубля,
- Мінск – 26,1 рубля.

Максімальны памер дапамогі па беспрацоўі ў Беларусі складае 2 базавыя велічыні (51 рубель).

ВОЗВРАЩАЯСЬ К НАПЕЧАТАННОМУ

# Фемида свое слово сказала, а власти?

5 февраля в «Народной Воле» было напечатано Открытое письмо председателю Минского райисполкома И.И.Крупко. Восемь членов товарищества собственников «Квартал Зеленый Бор» обращали внимание руководителя района на то, что хотя их жилищное объединение **«не является государственной структурой, но контроль за соблюдением законов любой общественной организацией возлагается на местные органы власти»**. А потому, мол, не нужно, Иван Иванович, устраняться от конфликта в товариществе «Квартал Зеленый Бор», а, опираясь на свои служебные полномочия, Вы должны поспособствовать проведению общего собрания в соответствии с требованиями законодательства. Это диктовалось и двумя судебными решениями. Еще 5 октября минувшего года суд Минского района признал решение общего собрания членов товарищества собственников «Квартал Зеленый Бор», принятое путем проведения письменного опроса в период с 2 по 11 мая, недействительным. 20 декабря 2018 года коллегия по гражданским делам Минского областного суда рассмотрела апелляционную жалобу и определила: решение суда Минского района от 5 октября оставить без изменения, а апелляционную жалобу представителя ответчика товарищества собственников «Квартал Зеленый Бор» – без удовлетворения.

Казалось бы, что тут непонятно? Власть должна на основательно вникнуть в суть вопроса и вместе с заинтересованными сторонами разрулить ситуацию, сложившуюся в товариществе собственников, которое является одним из самых крупных в стране. На это и рассчитывала редакция «Народной Воли», когда посылала Открытое письмо на реагирование в Минский облисполком. Но ответ удивил – он оказался обтекаемым, неконкретным, без принятия тех решений, которые диктуются законом. Тот высокопоставленный чиновник, который подписывал ответ редакции, даже не счел нужным обратить внимание на такой факт. После того как суды признали решение общего собрания членов товарищества собственников «Квартал Зеленый Бор» недействительным, группа людей, отстаивающих законность, пошла на прием к тому же председателю Минского райисполкома И.И.Крупко. И вначале он как будто с пониманием отнесся к предложению общественности: за его подписью в адрес председателя правления ТС «Квартал Зеленый Бор» Гопши А.К. было направлено письмо с рекомендацией **«решить вопрос об организации проведения общего собрания товарищества собственников после завершения судебных споров между товариществом собственников и его членами»**. При этом, как отмечалось в Открытом письме, правлению ТС «Квартал Зеленый Бор» было указано на необходимость *«предусмотрения процедуры выдвижения членов товарищества собственников в кандидаты уполномоченных членов, в члены правления, процедуры выдвижения кандидатов на должность председателя правления, а также процедуры уведомления членов ТС о проведении общего собрания с определением сроков такого выдвижения»*. Добавим: в письме И.Крупко на имя А.Гопши еще обращалось внимание на то, что при проведении собрания должны строго соблюдаться нормы жилищного законодательства Республики Беларусь. При этом глава администрации района ставил в известность председателя товарищества собственников, что райисполком примет участие в маркировке бюллетеней для голосования.

Получив для реагирования Открытое письмо, в облисполкоме должны были в первую очередь поинтересоваться: а как товарищ Гопша А.К. отнесся к предписанию райисполкома? Сразу заметим: председатель правления товарищества полностью проигнорировал все рекомендации главы администрации района. Да, он мог апеллировать еще к Верховному суду, но не стал этого делать, а тут же поспешил провести очередное общее собрание членов ТС «Квартал Зеленый Бор» путем опять же письменного опроса. Ссылаясь на этот факт, в облисполкоме сделали вид, что все прошло как надо и председателем правления товарищества собственников, как и раньше, избран тот же Александр Гопша.

На этом можно было бы ставить точку, если бы все делалось по закону, без нарушений со стороны ряда должностных лиц. А поскольку все было шито белыми нитками, то группа принципиальных собственников, поняв несостоятельность чиновников как райисполкома, так и облисполкома, опять обратилась с иском в суд. В очередной раз Гопша А.К. наступил на одни и те же грабли: 1 августа 2019 года Фемида и на районном, и на областном уровнях признала, что **в связи с рядом нарушений законодательства при организации и проведении общего собрания путем письменного опроса в период с 18 по 29 октября 2018 года его решения являются незаконными.**

Итак, судами признаны недействительными все три общих собрания членов товарищества собственников «Квартал Зеленый Бор», на которых якобы его председателем избирался Александр Гопша. К тому же через суды инициативная группа собственников добилась отмены решений всех других собраний, заседаний правления и ревизионной комиссии за период с 2016-го по 2019 год. Де-юре он, Гопша, получается, самозванец, не наделенный соответствующими правами. Это – по закону. А на практике он как занимал кабинет руководителя товарищества, так и занимает. Как распоряжался служебными банковскими счетами, так и распоряжается. По мнению его оппонентов, бесконтрольно тратятся огромные средства собственников. Большинство членов ТС не знают о непомерно высоких зарплатах председателя товарищества и некоторых из тех, кто находится рядом с ним.

Кстати, в ответе облисполкома говорится, что, согласно подпункту 1.3 пункта 1 Указа Президента Республики Беларусь от 14 октября 2010 года №58 «О некоторых вопросах деятельности товарищества собственников и организаций застройщиков», местные исполнительные и распорядительные органы в ряде случаев назначают уполномоченное лицо по управлению общим имуществом. По мнению юристов, у которых консультировалась редакция «Народной Воли», те же облисполком и райисполком давным-давно должны были назначить уполномоченное лицо по управлению товариществом собственников «Квартал Зеленый Бор». Ведь, еще раз подчеркиваем, судами признаны недействительными решения всех общих собраний, а это значит, что начиная с 2016 года Гопша А.К. незаконно занимает должность председателя правления. Такого, кажется, в стране еще не было!

Невольно напрашивается вопрос: суды сказали свое слово, но почему не могут принципиально подойти к разрешению ситуации в товариществе собственников «Квартал Зеленый Бор» Минские облисполком и райисполком? Неужели так трудно вместе с теми же собственниками наконец-то провести честные, прозрачные, справедливые выборы?

И вообще, давно назрела необходимость организовать совместно с контролирующими органами проверку всей финансово-хозяйственной деятельности правления товарищества собственников «Квартал Зеленый Бор» за последние три-пять лет. Речь-то идет, повторяем, об одном из самых крупных товариществ в стране!

**Редакция газеты «Народная Воля».**

ЧУЛІ?

## З Паўночнай Македоніі экстрадзіраваны беларус

*Ён знаходзіўся ў вышуку па лініі Інтэрпола больш за дзесяць гадоў – з 2007 года.*

Мужчына падазраецца ў набыцці на тэрыторыі Беларусі і Польшчы амфетаміну, а таксама яго захоўванні, збыце і кантрабандзе. За гэтыя злачынствы прадугледжана пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі тэрмінам да 15 гадоў, паведамляе МУС. Як сказаў намеснік начальніка Нацыянальнага цэнтральнага бюро Інтэрпола ў Беларусі Аляксей Вершаль, хаваючыся ад крымінальнага праследу на тэрыторыі замежных дзяржаў, мужчына змяніў анкетныя дадзеныя, выкарыстаў падроблены пашпарт грамадзяніна Расійскай Федэрацыі, атрымаў грамадзянства Швецыі. У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў яго месцазнаходжанне было ўстаноўлена на тэрыторыі Паўночнай Македоніі. У ліпені мясцовыя праваахоўныя органы затрымалі мужчыну. Тады ж судом гэтай дзяржавы было прынята рашэнне аб выдачы фігуранта Беларусі. Экстрадыцыю з Паўночнай Македоніі правялі супрацоўнікі НЦБ Інтэрпола ў Беларусі і ўпраўлення наглядна-выканаўчай дзейнасці МУС.

Між іншым, усяго з часу ўступлення Беларусі ў Інтэрпол у 1993 годзе ўстаноўлена месцазнаходжанне каля 900 абвінавачаных і 200 без вестак зніклых, якія адшукваюцца беларускімі праваахоўнікамі. Больш за 100 злачынцаў экстрадзіраваны.

СТАТЫСТЫКА

## Скардзяцца на ЖКГ, суды і міліцыю

За першую палову 2019 года ў Адміністрацыю прэзідэнта паступіла 13.058 зваротаў грамадзян, і гэта на 2,8% больш у параўнанні з першай паловай мінулага года.

Больш за ўсё зваротаў грамадзян паступіла па пытаннях жыллёвага фонду і жыллёва-камунальнай гаспадаркі – 2427 (18,5% агульнай колькасці).

Таксама ў ліку трох самых папулярных тэм, якія паднялі грамадзяне ў першым паўгоддзі, аказаліся пытанні, якія тычыліся рашэнняў судоў (1509 зваротаў) і дзеянняў органаў унутраных спраў (936). Пры гэтым колькасць скаргаў на дзеянні органаў унутраных спраў павялічылася на 13,3% у параўнанні са студзенем-чэрвенем мінулага года.

*«У значнай меры на рост колькасці карэспандэнцыі гэтай тэматыкі паўплывалі звароты маці асуджаных за незаконны абарот наркатычных сродкаў аб прымяненні да іх дзяцей амністыі»*, – тлумачыцца ў аглядзе, змешчаным у інфармацыйным бюлетэні Адміністрацыі прэзідэнта.

У першым паўгоддзі ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года таксама павялічылася (на 16% да 718) колькасць скаргаў на сістэму аховы здароўя.

*«На рост колькасці зваротаў паўплывалі і праблемы забеспячэння льготнікаў медыцынскімі прэпаратамі. На іх думку, беларускія аналагі ў разы горшыя за імпартныя»*, – гаворыцца ў дакуменце.

СТАЛА ВЯДОМА...

# Мікалай Казлоў збіраецца ісці ў дэпутаты

*Ці атрымаецца ў яго і на гэты раз схапіць за руку фальсіфікатараў выбараў?*

Выконваючы абавязкі старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Мікалай Казлоў не ўпершыню ўдзельнічае ў выбарчай кампаніі. Чатыры гады таму яго кандыдатуру не зарэгістравалі ў якасці кандыдата праз недарэчную памылку ў дэкларацыі аб даходах. На тых выбарах дэпутатам па Старавіленскай выбарчай акрузе №105, дзе спрабаваў балатавацца кандыдатам Мікалай Казлоў, стала спявачка Ірына Дарафеева.



Сёлета Казлоў нацэлены пазмагацца да канца. Але ці падрыхтавана каманда, якая будзе не толькі збіраць подпісы для рэгістрацыі, але і пільна назіраць за працэсам галасавання? Мікалай Казлоў, дарэчы, неаднаразова прад'яўляў факты фальсіфікацый падчас выбараў у Беларусі (праўда, усе яго намаганні прыцягнуць да адказнасці фальсіфікатараў поспеху не мелі).

– Упэўнены, што і сёлета схопім фальсіфікатараў за руку, – кажа Мікалай Казлоў. – Калі раней яны хаваліся і рабілі гэта па начах, то, як паказалі апошнія выбары, гэта ўжо адбываецца і днём. У 2015 годзе на прэзідэнцкіх выбарах я літаральна схапіў за руку настаўнікаў, якія разам з дырэктарам школы прыйшлі «галасаваць» не на свой выбарчы ўчастак, а ў суседнюю школу, каб «зрабіць» яўку. (*Пасля выбараў Казлоў сустрэўся з гэтым дырэктарам, але той адмовіўся размаўляць з ім і даваць каментары журналістам незалежных СМІ.* – **Рэд.**)

**– Каманду назіральнікаў пачалі ўжо збіраць?**

– Безумоўна. На акрузе, дзе я буду балатавацца, назіральнікі будуць сачыць за працэсам галасавання вельмі ўважліва. Я гэта абяцаю!

На жаль, пакуль усе факты фальсіфікацый, якія мне некалі ўдалося выявіць, «пахаваны», на іх ніяк не рэагуюць праваахоўныя органы, адмаўляюцца заводзіць крымінальныя справы. Але ўсё гэта застаецца ў архівах – і ў іх, і ў мяне. І я ўпэўнены, што наступіць час, калі кожнаму давядзецца адказаць за тое, што ён рабіў. Фальсіфікацыя выбараў – сур'ёзнае злачынства без тэрміну даўнасці, і гэта абавязкова стане прадметам судовага разгляду.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ЭКСПАРТ

## Галоўны пакупнік – Расія

Начальнік галоўнага ўпраўлення знешнеэканамічнай дзейнасці Міністэрства сельскай гаспадаркі **Аляксей Багданаў** парадаваў: Беларусь за першыя паўгода 2019 года ў параўнанні з аналагічным перыядам 2018-га павялічыла экспартныя пастаўкі сельгаспрадукцыі на 1,6% да 2,557 мільярда долараў. Рост хоць і няначны, але ёсць.

Галоўным спажыўцом нашай прадукцыі за мяжой па-ранейшаму застаецца Расія. 80% ад усіх паставак за 6 месяцаў гэтага года прыйшліся менавіта на РФ. Праўда, у мінулым годзе гэтая доля дасягала 82,2%.

Што характэрна: нягледзячы на малочныя войны, якія апошнім часам то ўспыхваюць, то патухаюць, за шэсць месяцаў 2019 года вырас і экспарт малочкі – на 12,6% у грашовым выражэнні. У асноўным дзякуючы таму, што нашы прадпрыемствы сталі пастаўляць у суседнюю дзяржаву не сыравіну, а гатовую прадукцыю, у асноўным сыры. *«Пакуль дзейнічаюць абмежаванні на экспарт некаторых відаў малочнай прадукцыі ў Расію, сыравіну пераначкіравалі на выпуск сыроў»*, – адзначыў Аляксей Багданаў.

ПАМЯТНАЯ ДАТА

# ТАКОЕ НЕ ЗАБЫВАЕЦЦА…

Сёлета 25 жніўня выпала на нядзельны дзень. Для «Народнай Волі» ён, як і для ўсіх, быў выхадным. Таму адзначыць такую падзею, як прынятае 25 жніўня 1991 года Вярхоўным Саветам 12-га склікання Закона аб наданні канстытуцыйнага статусу Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце (за якую дэпутаты прагаласавалі **27 ліпеня 1990 года**), не было магчымасці. Але ж выпусціць з поля зроку надзвычай важную гістарычную падзею нельга.

Пра тое, у якіх найскладанейшых умовах дэпутаты-дэмакраты змагаліся за НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ Беларусі (большасць Вярхоўнага Савета складалася з партыйна-савецкай наменклатуры), «Народная Воля» расказвала ў многіх публікацыях. Сёння ёсць неабходнасць нагадаць Вам, шаноўныя чытачы, пра, бадай, самы вырашальны момант таго вечара, калі за некалькі хвілін да апошняга і самага галоўнага галасавання да мікрафона падышоў і бліскуча выступіў (спакойна, без надрыву галасавых звязак, але з упорам на бясспрэчныя аргументы) лідар Беларускага Народнага Фронту дэпутат Зянон Пазьняк. Сваімі важкімі довадамі ён, па маім адчуванні, канчаткова схіліў парламент да прыняцця лёсавызначальнага закона.

25 жніўня 1991 года ў 20 гадзін 8 хвілін наша родная Беларусь стала НЕЗАЛЕЖНАЙ!

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,**
**дэпутат Вярхоўнага Савета 12-га склікання ад Пінскай Усходняй выбарчай акругі №133.**

## Зянон ПАЗЬНЯК:
# «Калі мы ня будзем мець нацыянальнай незалежнасьці, мы ня зможам свае рэсурсы, свае ўсе сродкі, свае вынікі працы ўкладваць на дабро нашага народа і нашай дзяржавы…»

*(Выступленне на апошнім (вячэрнім) пасяджэнні сесіі 25 жніўня 1991 года)*

– Справа ў тым, шаноўныя калегі, што зараз мы ўступілі ў прынцыпова новую сытуацыю. Усе рэспублікі вакол нас аб'явілі аб сваёй нацыянальнай дзяржаўнай незалежнасьці. У тым ліку ўчора гэта зрабіла Украіна. Практычна, пытаньне аб Саюзным дагаворы здымаецца на нейкі тэрмін. Саюз існуе толькі намінальна. І калі ў гэтай сытуацыі мы ня прымем адпаведнага закона аб дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі, мы трапім у вельмі кепскае становішча. Таму што тыя рэспублікі, якія вакол нас, яны будуць разьвівацца (і разьвіваюцца) як нацыянальныя дзяржавы на прынцыпова новай аснове. Яны ідуць да рынку, у іх будзе больш мабільная эканоміка, і мы трапім у непасрэдную залежнасьць ад гэтых рэспублік. Тым больш, я ў сваім дакладзе гаварыў (а я дастаткова добра знаёмы з расейскай дэмакратыяй на працягу многіх гадоў) і з ўсёю адказнасьцю магу сказаць, што на ўсходзе ў нас фармуецца маладая агрэсіўная імперыя ў форме дэмакратыі. Тыя дэмакраты, якіх мы добра ведаем, не прызнаюць фактычна нас як нацыю, яны не глядзяць на нас, як на асобную дзяржаву і на асобную тэрыторыю, а глядзяць на нас, як на вотчыну, на якую яны маюць пэўнае права.




На вялікі жаль, гэта так. І менавіта зыходзячы з гэтых меркаваньняў, я неадноўчы выказваўся і пісаў аб тым, што я сумняваюся ў дэмакратычным характары будучай Расеі. Таму што асноўны прынцып дэмакратыі – гэта прызнаньне права нацыі на самавызначэньне. Калі ў грамадстве існуе імпэрская мэнтальнасьць, дасягнуць дэмакратыі поўнасьцю вельмі цяжка. І тыя высновы, якія мы можам зрабіць зараз, сутыкаючыся з палітыкай з Усходу, прыводзяць нас да думкі, што зараз нам, каб выратаваць наш народ, нашу эканоміку, абавязкова патрэбны дзяржаўны суверэнітэт. Тыя хуткія тэмпы, якімі зараз пойдуць разьвівацца дзяржавы, якія заснаваны на нацыянальнай незалежнасьці, яны прывядуць да таго, што іхняя эканоміка высмакча з нашай рэспублікі рабочую сілу, высмакча тавары. І калі ў нас ня будзе сваёй валютнай сістэмы (а мы можам яе мець толькі тады, калі будзем мець нацыянальную незалежнасьць), мы трапім у вельмі цяжкае эканамічнае і залежнае становішча. Ужо Расея некалькі тыдняў таму паведаміла (Ельцын паведаміў) аб тым, што зьбіраецца павысіць цэны на нафту. Гэта быў у пэўнай ступені шантаж нашай рэспублікі. І ён быў ня першы раз.

Калі мы ня будзем мець нацыянальнай незалежнасьці, мы ня зможам свае рэсурсы, свае ўсе сродкі, свае вынікі працы ўкладваць на дабро нашага народа і нашай дзяржавы, мы ня зможам супрацьстаяць гэтай палітыцы. А яна будзе, і будзе абавязкова.

Мы ўступаем у новы стан дзяржаўных узаемаадносін. Таму, шаноўныя калегі, я вельмі вас прашу, паколькі палітычная абстаноўка зьмянілася рэзка і хутка, і некаторыя з нас не пасьпелі яе адразу ацаніць, я заклікаю ўсіх дэпутатаў зараз ацаніць гэтую абстаноўку самым належным чынам. Таму што ўсялякае замаруджваньне пойдзе нам на шкоду.

Ня трэба баяцца, што тут, як казалі некаторыя дэпутаты, узьнікне Альбанія, Куба, Карэя. Нічога падобнага. Працэсы, якія пайшлі ў нас, нават ход нашай сэсіі, пацьвярджаюць: яны неабарачальныя, яны ідуць на карысьць нашаму грамадзтву. А суверэнітэт дасьць нам магчымасьць стаць свабоднымі і незалежнымі, дасьць нам магчымасьць разьвіць тыя асновы, якія мы закладваем, ідучы да рэформ. Я прашу вас паставіць гэтае пытаньне і вырашыць яго сёньня. Бо заўтра можа быць позна. Нас тут ня вельмі многа, і патрэбна канстытуцыйная большасьць. Таму я рашыў выступіць перад вамі, і, можа, для некаторых было гэта нечаканым. Але я дастаткова добра ведаю, якія ўзаемаадносіны ў тых маладых структурах, якія зараз нараджаюцца. І калі мы спаткаемся зь імі потым, не падрыхтаваўшыся, мы проста апынемся ў невырашальным стане. Дзякуй за ўвагу.

*(Захаваны правапіс стэнаграмы.)*




ИНИЦИАТИВА

# «Робім разам»
## Футбол Волковыску нужен



– *В нашем городе – 44 тысячи жителей,* – говорит активист «Говори правду» и член Партии «Справедливый мир» из Волковыска Павел Станевский (*на фото*). – *Но возможности соревноваться и тренироваться нет. Как профессионалам, так и любителям, а главное – детям. Стадион в городе вроде как существует, но он в плачевном состоянии. С плохим покрытием и устаревшим, пришедшим в негодность от времени оборудованием.*

Так и возникла инициатива «Робім разам», цель которой – добиться появления в Волковыске современного футбольного стадиона.

По словам Павла Станевского, в ходе опроса многие жители города поддержали идею строительства нового стадиона. А затем пришли хорошие новости.




25 мая представители футбольных клубов «Динамо» (Брест) и «Неман» (Гродно) объявили, что у них есть проект строительства футбольной академии со стадионом в Волковыске и найден инвестор, готовый вложить в этот проект средства.

А 20 июня Белорусская федерация футбола объявила о решении выделить средства из программы ФИФА для строительства современных футбольных полей в пяти городах страны. В их числе – Волковыск.

– *Однако данные новости свидетельствуют лишь о намерениях построить стадион. Пока они не подкреплены реальными действиями, что делает нашу инициативу особенно актуальной,* – отмечает Павел Станевский. – *Поэтому команда «Робім разам» в середине августа составила обращение по содействию строительству современного футбольного стадиона в Волковыске. Наши главные требования – начать проектирование стадиона, внести его возведение в план развития Волковысского района на 2020 год и изыскать средства на строительство. Подписаться под обращением можно как в электронном виде, так и на бумажном подписном листе. Оно будет направлено в Гродненский облисполком, Волковысский райисполком, министерства образования, спорта и туризма, Белорусскую федерацию футбола.*

«Отсутствие в Волковыске достойной спортивной инфраструктуры является серьезной проблемой для жителей города. Это препятствует естественному развитию Волковыска, влияет на общий уровень ведения гражданами здорового образа жизни, способствует оттоку потенциально активных граждан из города, усложняя и без того неважную демографическую ситуацию, и в целом негативно отражается на положительном имидже Волковыска», – говорится в обращении.

– *После того как обращение будет передано в органы власти, мы планируем организовать «круглый стол» с участием представителей «Робім разам», райисполкома, облисполкома, федерации футбола и жителей города. Новый стадион – наше общее дело, наш общий вклад в развитие и процветание Волковыска,* – подытоживает Павел Станевский.

**Андрей ИГНАТОВИЧ.**

**Присоединиться к инициативе «Робім разам» в Волковыске, получить бумажный подписной лист: +375(29) 666-94-41 (Viber; Telegram; WhatsApp).**

СЛЫШАЛИ?

# Сергей Калякин и возглавляемая им партия предлагают белорусам перейти на 7-часовой рабочий день

По информации пресс-службы «Справедливого мира», соответствующее обращение принято II пленумом Центрального комитета партии. Данное предложение обосновывается тем, что в большинстве стран Европы продолжительность рабочей недели ниже, чем в Беларуси.

«Например, в Нидерландах, Дании, Норвегии, Франции, Ирландии, Швейцарии, Бельгии, Испании длительность рабочей недели составляет менее 36 часов. При этом зарплата трудящихся в этих странах несопоставимо выше, чем у белорусов», – указано в заявлении партии.

Как считают представители «Справедливого мира», для решения этого вопроса достаточно внести изменения в Трудовой кодекс, «так как действующая Конституция не создает препятствий для предлагаемого сокращения рабочего времени».

Национальная кампания за ограничение рабочего времени семью часами в день и 35 часами в неделю была инициирована председателем «Справедливого мира» Сергеем Калякиным на XX съезде партии 8 июня в Минске. Калякин тогда предложил совместить начало соответствующей кампании с выборами в Палату представителей.

*(Naviny.by.)*

РЭДКІЯ ЛЮДЗІ

# Крэўскі замак на... падворку

Гадоў дваццаць таму здавалася, што Крэўскі замак, які за свой доўгі век вытрымаў не адну аблогу, перад аблогай часу не выстаяў. Вежы і сцены абвальваліся, ператвараліся ў каменныя крушні, што зарасталі бадыллём, дажджы і маразы настойліва рабілі сваю разбуральную справу, на замкавым дворышчы мэкалі козы і гагаталі гусі. Балюча было глядзець на былую веліч, што мізарнела ў вартых жалю руінах. Рэдкія турысты, што заязджалі ў Крэва, згадвалі хіба старажытнае, праверанае тысячагоддзямі, выслоўе: так мінае слава свету.

Але ж не мінула яна для Мірскага і Нясвіжскага замкаў, якія ўжо ў наш час былі цалкам адноўлены. Не мінула тая слава для Лідскага і Гродзенскага замкаў, якія сёння паступова аднаўляюцца. Відаць, паглядзеўшы на сваіх малодшых братоў, перадумаў сыходзіць у нябыт і Крэўскі замак. У айчынных рэстаўратараў нарэшце дайшлі рукі і да яго. Паціху-патроху пайшла ўгару галоўная кутняя вежа, выпрасталася, як станавы хрыбет, адна са сцен. Словам, у XXI стагоддзі Крэўскі замак прыкметна ажыў, каля яго завіравалі розныя рыцарскія фэсты, аб ім пайшла пагаласка па ўсёй краіне, Крэва трапіла ў шматлікія экскурсійныя маршруты.

І ўсё ж, нягледзячы на падтрымку дзяржавы, на энтузіязм прафесіяналаў і валанцёраў, Крэўскаму замку да ранейшай велічы яшчэ далёка. Занадта доўга ён прастаяў у поўным занядбанні. Да таго ж час ад часу то выдзеленыя з дзяржбюджэту грошы заканчваюцца, то камянёў патрэбнай кандыцыі бракуе. Вось і гэтым летам будаўнічага руху пад яго сценамі заўважана не было. Затое з'явілася шыльдачка, што ў суседняй вёсцы Чухны можна пабачыць паменшаную копію замка. За адзін рубель (арыгінал дазволена аглядаць бясплатна). Які ж аматар даўніны пашкадуе таго рубля і праедзе міма? Не праехаў і я.

У малалюдных Чухнах (ад Крэва да іх кіламетры два, толькі пераехаць мінска-вільнюскі бальшак) мне адразу паказалі сядзібу Сяргея Бандарэнкі, на чыім падворку і паўстаў паменшаны ў дзесяць разоў Крэўскі замак. Гаспадар з кельмай у руках якраз завяршаў чарговы шэраг кладкі. Усіх цікаўных ён прымае ахвотна, ніхто не з'язджае з яго падворка з пустымі рукамі, без сувеніраў.





Сяргей – не карэнны тутэйшы жыхар, нарадзіўся ажно ў Архангельску, у сям'і выхадца з Магілёўшчыны. Яго бацька ўцёк з Беларусі, ратуючыся ад калгаснага прыгоннага права, паводле якога вяскоўцы былі вымушаны працаваць за галачкі і не мелі нават пашпартоў. Бандарэнка-старэйшы выехаў спачатку ў Данецк, паспрабаваў шахцёрскага хлеба. А потым падаўся на Белае мора, служыў на флоце. Там у 1963 годзе і з'явіўся на свет яго сын Сяргей. Потым бацька зразумеў, што Архангельск – гэта «тоска, доска и треска», і вярнуўся з сям'ёй на радзіму, у Светлагорск, дзе якраз пачаў будавацца завод па вырабе хімвалакна.

У Чухнах Сяргей з жонкай Марынай пасяліўся пасля доўгіх пошукаў свайго месца пад сонцам.



Светлагорск яны пакінулі пасля Чарнобыльскай аварыі, перабраліся ажно на Урал. Ды нездарма яшчэ Янка Купала пісаў: «Не шукай ты шчасця-долі на чужым далёкім полі». На чужыне не прыжыліся, вярнуліся і паспрабавалі наладзіць сямейнае гняздо ў Смаргоні. Праз год з'ехалі і адтуль – пасля пабудовы паблізу дома завода па вытворчасці ламінату. Нарэшце купілі хату ў Чухнах і зразумелі: іх жыццёвы карабель канчаткова кінуў якар на крэўскай зямлі.

Аднак жыць у вёсцы – неабходна варушыцца. Як спрадвеку казалі ў народзе, гаспадарку весці – трэба кішэняй трэсці. А каб патрэсці – трэба спачатку нешта туды пакласці. І вырашыў Сяргей заняцца мастацкай разьбой па метале – меў пэўныя здольнасці. Да творчасці натхняў і славуты замак, пад мурамі якога жонка наладзіла продаж вырабаў. Асартымент з кожным годам большаў, свае творы сямейная пара вывозіла то на «Славянскі базар», то на розныя рэгіянальныя святы, то ў замежныя Вільнюс і Маскву. Справа наладжвалася, ды здарылася бяда: майстар палез на дрэва спілаваць галіну, упаў і зламаў нагу. А зарабляць на жыццё неяк трэба было.

Кульгаючы па падворку з загіпсаванай нагой, дачуўся Сяргей Бандарэнка, што ў ваколіцах Чухнава незвычайная гліна – зусім без пясчынак, вельмі пластычная. Радовішча яе ва ўрочышчы Мілідаўшчына – рукой падаць. І стаў «металіст» ганчаром-керамістам. Хутка «Пагоні», рыцары і розныя міфічныя істоты з мілідаўскай гліны сталі даволі хадавым таварам на прылаўку каля Крэўскага замка.

Змог заахвоціць сваім мастацтвам бацька і старэйшую дачку – яна скончыла Мінскі ўніверсітэт культуры і выкладае кераміку ў Смаргоні. Малодшая, праўда, з'ехала вучыцца ў Польшчу па спецыяльнасці «турыстычны бізнес». Сяргей і Марына спадзяюцца, што дачка вернецца дыпламаваным спецыялістам і будзе запатрабавана на радзіме.

Аднойчы ў Крэва прыехалі чыноўнікі з Гродна з патэнцыяльнымі інвестарамі. Тыя паглядзелі на занядбаны замак, павойкалі, прыкінулі, колькі часу і грошай патрэбна, і з'ехалі з панылымі тварамі. Вось тады Сяргей з Марынай і вырашылі будаваць свой уласны замак.

Цікаўлюся: як яны адважыліся на такую авантуру? Ці пралічвалі, у колькі абыдзецца ім тое замкабудаўніцтва? «Ніякага бізнес-плана ў нас не было, – прызнаецца Сяргей. – У нас так: усё заробленае да канца ліпеня за жнівень укладаем у замак, а потым ізноў зарабляем, каб дажыць да наступнага сезона. Зарабляем толькі сувенірамі. Справа з замкам рухаецца. Збоку здаецца – марудна, але ж мы і не планавалі закончыць усё за год. Мы ж не магнаты. Вось сёння я абпаліў чарговую партыю цэглы – яна мініяцюрная, як паўкарабка ад запалак. Паклаў сотні дзве ў сцяну. Дараблю – будзем прымаць турыстаў, вуліцу нашу назавём імем Ягайлы, Кейстута ці Вітаўта. У Крэве замак стаіць на вуліцы Дзяржынскага, а ў нас усё будзе з гістарычным каларытам».

Я нагадваю рамантычна настроенаму дойліду, што для надання вясковай вуліцы імя вялікага князя запатрабуецца дазвол усіх чухнаўцаў і мясцовай улады. Ці ёсць з імі паразуменне? Як увогуле ставяцца вяскоўцы да бандарэнкаўскага замка на падворку?

Сяргей упэўнены: з чухнаўцамі ён дамовіцца без праблем. Ды і жыве іх у вёсцы ўсяго каля двух дзясяткаў. Чым могуць, яны дапамагаюць земляку. То кола драўлянае прынясуць, то знойдзены на гарышчы калаўротак, то неяк бязмен у будучы музей аддалі. І нібыта бязмен той падчас паўстання пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага выкарыстоўваўся як булава. Штык 1812 года сусед на гародзе адшукаў, бульбу капаючы. А Бандарэнка з уласнага склепа выцягнуў гармату часоў Першай сусветнай вайны – яна там скляпенні падпірала.

Што да мясцовых улад, то з імі не заўсёды ўдаецца дамовіцца. Скажам, некалькі разоў па распараджэнні загадчыка аддзела культуры Смаргонскага райвыканкама каля Крэўскага замка здымалася рэкламная шыльда з абвесткай пра арт-аб'ект у Чухнах. Маўляў, не паложана. Сяргей дайшоў да Міністэрства культуры, самадурства смаргонскіх чыноўнікаў аспрэчыў і сваю рацыю давёў. І цяпер зроблены па-майстэрску рыцар з мячом запрашае ўсіх турыстаў у Чухны. Бывае, заедзе хто, рублёў дзесяць дасць – на працяг будаўніцтва. Якая шкода ад гэтага смаргонскім уладам? Невядома калі замак у Крэве дабудуецца, а ў Чухнах фінал ужо відзён.

Пытаюся ў Сяргея, прыборабудаўніка паводле адукацыі, адкуль у яго захапленне беларускай гісторыяй. І ён прыгадвае, што ўпершыню ўбачыў бел-чырвона-белы сцяг у Вільнюсе, дзе праходзіў з'езд БНФ. Трапіўшы туды выпадкова работнікам Мінскага трактарнага завода, Бандарэнка вярнуўся дамоў з нейкай іскрай у душы. І сёння ён з настальгічным замілаваннем прыгадвае, як вяртаўся з Вільнюса, з гістарычнай Вільні, на цягніку, у якім усе размаўлялі па-беларуску, спявалі беларускія песні, як мінскі вакзал патанаў у бел-чырвона-белых палотнішчах…

Пакуль мы размаўляем, у начоўках застывае разведзеная гліна. Гаспадар бярэ ў рукі прыгаршчы цаглінак і прапануе пакласці іх у сцяну майму сыну-шасцікласніку. Вячка з задавальненнем муруе замкавую сцяну, дзе тычком, дзе лажком, – з большым імпэтам, чым сядзіць за камп'ютарам!

А мяне ўсё ж цікавіць, як за кошт маленькага керамічнага бізнесу можна ўзвесці замак зусім не цацачнага памеру – прыкладна 10 на 10 метраў. Сяргей згаджаецца, што адной керамікай справу не выцягнеш, таму па-ранейшаму працуе і з жалезам, і з дрэвам. Вось днямі жонка сказала, што закончыліся рыцарскія мячы, дык учора цэлы дзень сядзеў і рабіў. Але часам і пагонькі па 4 рублі добра разыходзяцца, і магніцікі. Зрэдку хтосьці набывае самую вялікую «Пагоню» – за 50 рублёў. Бываюць святочныя дні, калі за дзень удаецца зарабіць 100–150 рублёў. Заробак ідзе на замак, дзе з цягам часу з'явяцца і баявыя галерэі, і тэракотавае войска, і катапульты на сценах.

Паралельна з замкам Сяргей Бандарэнка ўзводзіць лабірынт – накшталт знакамітага Крыцкага. Трэба ж нечым прывабліваць турыстаў і эфектыўна выкарыстаць цэлы гектар зямлі. Ідэю лабірынта падказалі ўсё тыя ж крэўскія краявіды, дзе камянёў на палях – на сто замкаў хопіць. Як кажуць у крэўскіх ваколіцах: у нас камянёў – хоць забіся, вады – хоць заліся, дроў – хоць спаліся.

Для чухнаўскага лабірынта (50 метраў у дыяметры) патрэбны валуны вагой па 2–3 тоны. Зноў жа паўстае праблема: калгасны трактар каштуе 50 рублёў за гадзіну, ну проста як таксі, не назаказваешся. Машына пяску вясной каштавала столькі ж, а цяпер удвая больш. Хоць кар'ер зусім побач, за пагоркам. У цэнтры лабірынта ўжо пасаджаны дуб – свяшчэннае дрэва, якое шанавалася нашымі продкамі з язычніцкіх часоў.

Крэўскі замак на падворку, музей пры ім, каменны лабірынт… Ці акупіцца ўсё гэта, ці не лепш было б засадзіць гектар зямлі бульбай ды штовосень збіраць у мяхі гарантаваны ўраджай?

«Бульбу садзяць усе. А замак будзе толькі ў нас. І пасля нас застанецца – наступным пакаленням беларусаў», – працягвае мне руку на развітанне Сяргей Бандарэнка і бярэцца за свой рабочы рыштунак. Не князь, не магнат, не дойлід. Звычайны беларус, які ведае: Беларусь была краінай замкаў. І зноў ёю стане. Паспрыяй яму Божа!

**Міхась СКОБЛА.**

ГАСТРОЛЬ

# Древний Пафос потребовал страсти «Макбета»

Завтра в Пафосе (Республика Кипр) высадится солидный артистический десант из Большого театра. А три огромных контейнера с реквизитом и декорациями отправились по морю еще в середине июня.

В последние дни лета, 30 и 31 августа, а также 1 сентября белорусские артисты приглашены участвовать в Международном оперном фестивале «Афродита». Это очень известное мероприятие, на котором за 20 лет его существования выступали лучшие европейские театры (кроме лондонского Ковент Гардена): и из Варшавы, и из Праги, Москвы, Санкт-Петербурга, и многие другие очень известные музыкальные коллективы.



На Кипре Большой театр покажет зрителям оперу Джузеппе Верди «Макбет». Именно эту постановку из богатого репертуара белорусской труппы выбрала кипрская сторона, и не в последнюю очередь потому, считает руководитель гастролей народная артистка Нина Иосифовна Ломанович, что «Макбет» нечасто идет на европейских сценах.

– А что вы думаете – это сложное произведение! Но у нас для него есть настоящие силы, есть хорошие певцы: Нина Шарубина, Екатерина Головлева, Станислав Трифонов, Владимир Громов, – сказала Нина Иосифовна перед отъездом. – Да и постановка главного режиссера Михаила Панджавидзе, несомненно, очень хорошая. В общем, мы едем работать с воодушевлением – наконец-то опера выезжает на настоящие гастроли. Вы знаете, сколько всего человек? Сто шестьдесят пять! Солисты и дирижер Виктор Плоскина получат гонорар. Оркестранты и хор – суточные. Да, организаторам это обходится недешево, но мы представляем Большой театр Беларуси и не можем приехать каким-то «огрызком» и показать шедевр.

Опера будет идти на открытой сцене, которая по традиции устанавливается на площади перед средневековым замком Пафоса.

Билеты на белорусские спектакли стоят от 25 до 70 евро. И они все раскуплены: туристы, которыми наводнен Кипр, не экономят на культурном отдыхе.

**Виктория ДРОЗД.**

**На снимке: заслуженный артист, лауреат Государственной премии Станислав Трифонов.**

МАЗАІКА

## Сярод лепшых…

Беларускія спартсмены заваявалі 14 узнагарод на чэмпіянаце свету па веславанні на байдарках і каноэ ў венгерскім Сегедзе і разам са зборнай Германіі сталі лепшымі ў агульнакамандным медальным заліку.

Амаль палова медалёў – шэсць – залатыя. Двойчы на вышэйшую прыступку п'едэстала гонару ўздымаўся экіпаж жаночай байдаркі-двойкі Марына Літвінчук / Вольга Худзенка (200 і 500 м). Таксама чэмпіёнамі планеты сталі Алена Ноздрава (каноэ-адзіночка, 500 м), Вольга Клімава (каноэ-адзіночка, 5000 м), Алег Юрэня (байдарка-адзіночка, 5000 м) і экіпаж мужчынскай байдаркі-двойкі Станіслаў Дайнэка / Зміцер Натынчык на дыстанцыі паўкіламетра.

## Аліна Талай зноў на вышыні

Беларуская лёгкаатлетка выканала нарматыў для ўдзелу ў Алімпіядзе-2020 у Токіа на дыстанцыі 100 метраў з бар'ерамі. Яна стала другой на турніры ў Бруселі, пераадолеўшы дыстанцыю за 12,84 секунды. Талай саступіла тры сотыя толькі Надзін Вісэр з Нідэрландаў. Гэты старт стаў для Аліны першым у гэтым летнім сезоне, спартсменка доўга аднаўлялася пасля траўмы. Раней алімпійскі нарматыў на гэтай дыстанцыі выканала Эльвіра Герман.

АСАБІСТАЕ ЖЫЦЦЁ

# Валянціна Гарцуева адпачывае на радзіме мужа

Летась зорка Купалаўскага тэатра Валянціна Гарцуева выйшла замуж за нямецкага акцёра Жана-Марка Біркхольца. Нядзіўна, што свой сёлетні адпачынак вядомая актрыса праводзіць у Германіі.



З убачанага Валянціну больш за ўсё ўразіла альпака-ферма, размешчаная ў цэнтры прыгожага мястэчка Заўэрланд. Сямейная пара змагла пагуляць на прыродзе з альпакамі. *«Гэта быў адзін з лепшых дзён у маім жыцці!»*– так адрэагавала Валянціна на прагулку з абаяльнымі сваякамі вярблюдаў і падзякавала ў сацыяльных сетках мужу за самыя лепшыя канікулы...

Альпака, або лама, – жывёла сямейства вярблюджых. Гэта менавіта воўну альпакі называюць вярблюджай, што сведчыць аб яе высокай якасці. У сувязі з ростам попыту на воўну альпакі развядзенне гэтых жывёл стала папулярным не толькі на іх радзіме – у краінах Паўднёвай Амерыкі, але і ў Германіі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

НАРОДНАЯ АПТЕКА

# Средство, которое быстро уберет «отложение солей» на шее

Как же приготовить средство для облегчения симптомов остеохондроза?

Шейный отдел позвоночника – это очень важная часть тела, нарушения в этой области приводят к серьезным нарушениям работы всего организма. Область шеи – это место сосредоточения сосудов и нервов, питающих ткани шеи, лица и черепа. Кроме того, вследствие защемления нервных окончаний начинаются головные боли, онемение конечностей, слабость мышц, быстрая утомляемость и т.д.

Как облегчить проявления остеохондроза? Предлагаем несложный рецепт.

**Ингредиенты:** картофель, мед, пихтовое масло.

**Приготовление компресса на шейную область.** Возьмите натертый на мелкой терке сырой картофель и смешайте с медом в пропорции 1:1.

Наложите на область шеи и плечевой пояс компресс из приготовленной массы.

Сверху положите бумагу для компрессов и, утеплив, зафиксируйте повязкой. Компресс оставьте на 2 часа.

Сняв его, протрите влажной теплой салфеткой место компресса и смажьте пихтовым маслом.

Курс лечения – 7–10 процедур.

РАДУЕМСЯ ВМЕСТЕ!

# Макс Корж оправдал надежды «Народной Воли»



В «Народной Воле» за 23 августа была напечатана корреспонденция под заголовком «Завтра Макс Корж красиво «порвет» стадион «Динамо». И автор публикации Виктория Дрозд как в воду глядела – парень из полесского Лунинца действительно превратил главную спортивную арену страны в фантастический зал. 35 тысяч молодых (и не только) людей три с половиной часа находились, можно сказать, в плену песенного самородка, который с гордостью за Беларусь произнес: «Здесь моя сила и моя страна!»

Кстати, постоянные читатели «Народной Воли» наверняка помнят материал, который опубликовала несколько лет назад Елена Молочко, побывав в Лунинце в семье Макса Коржа. Надеемся, он еще не один раз даст повод порадоваться его таланту.










ФЕСТЫВАЛЬ

# «Тбілісоба» ў Мінску

*Што ні кажыце, а грузіны ёсць грузіны. Яны непаўторныя як у шчырай гасціннасці, так і ў тэмпераментным мастацтве. Гэта яшчэ раз пацвердзіў фестываль «Тбілісоба», які прайшоў у мінулую суботу ля сцен Верхняга горада, што ў цэнтры Мінска.*







ШАХМАТЫ

## За дошкай і завочна




Наступная задача *(гл. дыяграму)* належыць мінчаніну М.Шаблінскаму. Міхаіл Іванавіч нарадзіўся ў 1953 годзе. Удзельнік міжнародных турніраў па завочных шахматах, выступаў і за беларускую зборную па шахматнай кампазіцыі, склаў каля ста задач.

**Белыя:** Крh2, Фе3, Са3, Ке7, пg5 (5).

**Чорныя:** Кре5, пп. d5, е4, f5 (4).

**Мат за 2 хады.**

Дасылайце рашэнні на адрас рэдакцыі ***(220030 г.Мінск, вул. Энгельса, 34а)*** або на электронны адрас: ***vadim_ne67@mail.ru.***

## Прызавыя перамогі

У мінулым выпуску мы распавялі пра вынікі сёлетніх чэмпіянатаў краіны сярод мужчын і жанчын. А вось яшчэ некалькі партый з гэтых спаборніцтваў. Першую згулялі будучыя бронзавы і сярэбраны прызёры, адпаведна міжнародны майстар і міжнародны грасмайстар. Перамогу атрымаў малодшы па званні.

***Міхаіл Нікіценка – Кірыл Ступак***

1.с4 g6 2.Кс3 Сg7 3.d4 d6 4.е4 е5 5.Кf3 ed 6.К:d4 Кс6 7.Се3 Кgе7 8.h4 0-0 9.h5 f5 10.К:с6 bс 11.hg hg 12.Сd4 с5 13.С:g7 Кр:g7 14.Фd2 Кg8 15.0-0-0 Се6 16.еf С:f5 17.Кd5 Кf6 18.Фс3 с6 19.Ке3 Се6 20.g4 Крf7 21.g5 Ке4 22.Фс2 d5 23.сd сd 24.К:d5 Ф:g5+ 25.f4 Фf5 26.Сh3 Ф:d5 27.Л:d5 С:d5 28.Сg2 Лае8 29.Лd1 Сс6 30.Ле1 Ле6 31.С:е4 Лfе8 32.С:g6+ Л:g6 33.Фf5+ Крg7 34.Л:е8 С:е8 35.Фе5+ Крf7 36.Фс7+, 1:0.

У жаночым чэмпіянаце другое месца заняла майстар ФІДЭ ***Наталля Кусянкова***. У наступнай партыі яе саперніцай была грасмайстар, шматразовая чэмпіёнка Беларусі.

***Рахіль Эйдэльсон – Наталля Кусянкова***

1.Кf3 d5 2.е3 Кf6 3.с4 е6 4.b3 с5 5.Сb2 Кс6 6.сd еd 7.Сb5 Сd7 8.0-0 Сd6 9.С:с6 С:с6 10.d4 b6 11.Ке5 Сb7 12.Кс3 0-0 13.Ке2 Фе7 14.Кg3 g6 15.Ле1 Лаd8 16.а3 Кd7 17.Кg4 f6 18.h4 Фg7 19.Фd2 h5 20.Кh2 Лfе8 21.Кf3 С:g3 22.fg с4 23.bс dс 24.d5 Кс5 25.е4 К:е4 26.Л:е4 Л:е4 27.Кg5 Л:d5 28.Фс2 Ле3 29.Фf2 Лdе5 30.С:е5 Л:е5 31.Кf3 С:f3 32.Ф:f3 Фе7 33.Крh2 Крg7 34.Лd1 Ле3 35.Фf4 Лd3 36.Лf1 b5 37.а4 а6 38.аb аb 39.Лf2 Фе5, 0:1.

А ў гэтым грасмайстарскім паядынку перамога была на баку будучага бронзавага прызёра.

***Генрыета Лагвілава – Ланіта Сцяцко***

1.f4 d5 2.Кf3 Сg4 3.Ке5 Сf5 4.d4 f6 5.Кf3 Кс6 6.е3 а6 7.Сd3 Фd7 8.С:f5 Ф:f5 9.0-0 Фd7 10.b3 Кh6 11.с4 е6 12.Кс3 Се7 13.Фе2 Кf5 14.Сb2 Сb4 15.Кd1 dс 16.bс 0-0 17.Кf2 b6 18.Лfd1 Фf7 19.Лас1 Лfd8 20.g4 Кfе7 21.а3 Са5 22.g5 fg 23.К:g5 Фg6 24.Крh1 Кf5 25.d5 еd 26.сd Ксе7 27.е4 Кd6 28.Ке6 Ле8 29.Лg1, 1:0.

## Па-за п'едэсталам

Адбыўся камандны чэмпіянат Еўропы сярод юнакоў і дзяўчат. З трох беларускіх зборных лепшы вынік паказала юнацкая каманда да 18 гадоў – 4-е месца (за яе выступалі ***Вячаслаў Зарубіцкі, Вольга Бадэлька, Дзяніс Лазавік, Максім Царук***, а лепш за іншых згуляў ***Іван Рунец*** – 4 перамогі, 1 пройгрыш, 1 нічыя).

Зборная хлопчыкаў да 12 гадоў фінішавала на 6-м месцы, за яе гулялі ***Арцём Стрыбук*** (5 перамог, 1 пройгрыш, 1 нічыя), ***Міхей Навуменка***, ***Арцём Бяляўскі*** і ***Іван Пятрэнка***. У складзе дзявочай зборнай да 18 гадоў выступала 12-гадовая чэмпіёнка Беларусі сярод дарослых ***Саша Тарасенка*** (3 перамогі, 2 пройгрышы, 1 нічыя), а таксама ***Ксенія Зелянцова*** і ***Арына Кузіч***. Іх вынік – 12-е месца.

## Што здолелі…

Чэмпіянат Еўропы па рашэнні шахматных кампазіцый праводзіўся сёлета ўжо ў 14-ы раз. Спаборніцтва прайшло ў сталіцы Грэцыі. У асабістым заліку (65 удзельнікаў) перамог 16-гадовы расіянін Даніла Паўлаў. Сярэбраны медаль заваяваў шматразовы чэмпіён свету Пётр Мурдзя (Польшча), бронзавы – англійскі двойчы грасмайстар (па практычнай гульні і па рашэнні) Джон Нан. З беларусаў Аляксандр Булаўка заняў 31-е месца, а Мікалай Сігневіч – 43-е. У камандным заліку прызавую тройку склалі Расія, Польшча і Вялікабрытанія. Беларуская каманда, якая выступала няпоўным складам (толькі два ўдзельнікі з чатырох магчымых), заняла 11-е месца.

## Праверце адказы

Задача ***М.Кошаля***, змешчаная ў «Народнай Волі» 23 ліпеня, рашаецца: **1.Фg1**. Першымі правільна адказалі ***Леанід Калодка***, ***Васіль Жуковіч***, ***Мікалай Шклярэўскі***, ***Віктар Жук***, ***Сяргей Цяльпук***.

**Вадзім ЖЫЛКО.**

IN MEMORIAM

# Бывайце, шаноўны Пятро…

З Пятром Васючэнкам, які днямі, на жаль, памёр, мы, амаль аднагодкі, паходзілі з аднаго горада – старажытнага Полацка, але хадзілі ў розныя школы і тады адзін аднаго не ведалі. Калі я пасля заканчэння мінскага іняза вярнуўся працаваць у родны горад, Пятро, выпускнік Белдзяржуніверсітэта, адразу атрымаў накіраванне ў аспірантуру і абараніў кандыдацкую дысертацыю амаль на пяць гадоў раней за мяне. У другой палове 1980-х ён стаў адной з самых прыкметных постацяў у нефармальным аб'яднанні маладых творцаў-літаратараў «Тутэйшыя», я ж публікаваў свае першыя мастацкія пераклады на літаратурнай старонцы наваполацкай гарадской газеты.

Пазнаёміў і звёў нас у жыцці Беларускі гуманітарны ліцэй. Пятро Васючэнка складаў першыя ў незалежнай Беларусі праграмы па сусветнай літаратуры і стаў адным з першых выкладчыкаў ліцэя (потым да гэтай працы далучыўся і я). Пазней мы разам з ім, а таксама з доктарам філалагічных навук Міхасём Тычынам напісалі першыя дапаможнікі паводле абноўленых аўтарскіх праграм.

Дачка Пятра і яго жонкі, археолага і гісторыка культуры Ніны Здановіч, Марыля была на пачатку 2000-х адной з найлепшых выпускніц ліцэя, а па заканчэнні ўніверсітэта не стала шукаць сабе працы ў тлумным Мінску (хоць бацькі, напэўна, маглі ў гэтым дапамагчы), а разам з новастворанай сям'ёй з'ехала на вёску.



З пачатку 1990-х тагачасны новы рэктар Мінскага лінгвістычнага ўніверсітэта Наталля Баранава прапанавала Пятру ўзначаліць там абноўленую кафедру беларускай мовы і літаратуры, і немагчыма апісаць, колькі сваіх фізічных і духоўных сіл Пятро Васючэнка паклаў на тое, каб у гэтай установе агонь беларускасці не згас… Працуючы ў лінгвістычным, ён напісаў адну з самых грунтоўных літаратуразнаўчых манаграфій у беларускай гісторыі – «Беларуская літаратура ХХ стагоддзя і сімвалізм», у якой доказна давёў, што класікі нашай літаратуры Янка Купала, Максім Багдановіч, Якуб Колас, Алесь Гарун, Максм Гарэцкі без усялякіх агаворак могуць лічыцца і класікамі літаратуры еўрапейскай. Ён жа напісаў адну з першых у нашай гісторыі кніжак па папулярным літаратуразнаўстве: зборнік абразкоў і кароткіх эсэ (для іх аўтар прыдумаў дасціпную назву «пятрогліфы») пад назвай «Ад тэксту да хранатопа». Пры гэтым не кідаў пісаць мастацкую прозу (найлепшыя яе ўзоры з часам былі перакладзены на англійскую, балгарскую, нямецкую, польскую, рускую, славацкую і чэшскую мовы) і стаў адным з самых адметных дзіцячых драматургаў краіны. Яго знакамітыя «Прыгоды паноў Кубліцкага і Заблоцкага», «Маленькі збраяносец» і іншыя п'есы трапілі на падмосткі некалькіх беларускіх тэатраў – найперш Мінскага тэатра юнага гледача і Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

Пратрымаўшыся чвэрць стагоддзя на пасадзе кіраўніка кафедры дзяржаўнай ВНУ, Пятро Васючэнка ніколі не дазваляў сабе прыніжацца. Перад сумна вядомым рэферэндумам 1995 года аб фактычнай ліквідацыі дзяржаўнасці беларускай мовы рашуча выступіў супраць гэтага на старонках адной з масавых газет. Пасля расколу беларускай пісьменніцкай арганізацыі, учыненага праўладнымі літаратарамі, застаўся ў створаным Купалам і Коласам Саюзе беларускіх пісьменнікаў, не раз уваходзіў у яго Раду, у склад журы беларускіх незалежных літаратурных прэмій. Чытаў лекцыі ў незалежным Беларускім Калегіуме. Працягваў цікавіцца справамі загнанага ў падполле гуманітарнага ліцэя, выступіў на яго юбілейнай вечарыне, прысвечанай 25-годдзю заснавання… Быў чалавекам надзвычай далікатным, адкрытым, шчырым і, калі трэба, тонка іранічным.

Кажуць, што Бог дае рыцарам і праведнікам лёгкую смерць. 25 жніўня, у дзень аднаўлення незалежнасці нашай краіны, Пятро Васючэнка вярнуўся дадому з невялікай прагулкі, узышоў на пяты паверх уручанскага шматпавярховіка (якраз не працаваў ліфт), зайшоў у сваю кватэру і тут жа сканаў, проста на вачах у сваёй жонкі. Яму было толькі 60 гадоў.

Дарагі Пятро, вольнай і незалежнай Беларусі, пра якую ты марыў усё сваё свядомае жыццё, будзе моцна не хапаць цябе, аднаго з яе адданых і праведных рыцараў…

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, зямляк і аднадумца.**

**НА ЗДЫМКУ: Пятро Васючэнка выступае на прэзентацыі новага ліцэйскага дапаможніка па літаратуры. Справа – Зміцер Колас і аўтар гэтых радкоў. Сядзіба ТБМ, лістапад 2018 года.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**

Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info

Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Галоўны рэдактар
Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ



Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 26.08.2019 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 22 220 экз. Заказ № 2700.

9 772071 964000 19067